# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 8 Ліпень 1937 г. Год II



Нарач Фото Зданоўскі

# ДА ЧЫТАЧОЎ.

На заклік наш у папярэднім нумары, многія з Вас адгукнуліся і сумленна выпаўнілі свой грамадзкі абавязак. Аднак ёсьць яшчэ такія, што мала або нічым не спрычыніліся да падтрыманьня беларускага друкаванага слова. Трэба ведаць, што такая „нясьведамасьць“ ці проста нядбаласьць толькі тармозіць разьвіцьцё беларускае справы. Каму ад гэтага карысьць тлумачыць ня прыходзіцца.

Разам з гэтым нумарам пасылаем пераказы для высылкі складак і ахвяр на наш разрахунак 91. Усім, хто не заплаціць свае складкі ў працягу месяца жніўня, высылку нашага журнала *з наступнага нумару спыняем.*

**Рэдакцыя.**

---

## ЗЬМЕСТ:



---


СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 40 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня. Каралеўская вуліца 3-8
Конто: Rozrachunek 91





Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

**КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

№ 8 Ліпень 1937 г. Год II


МАКСІМ ТАНК

## СКАЗ ПРА ВЯЛЯ.

*Народная быліна.*

I.

Там,
дзе паспрачаліся
тры дарогі:
адна з вёскі, другая з князевага двору,
а трэцяя з сьвету шырокага, вольнага;
там, дзе, з працы йдучы па сярэдняй трапе,
людзі вострыя косы нясьлі, гаварылі;
там, дзе песьняў нашых
сумны напеў
камары па густых верасох раззванілі,—
арэ Скіба загон. Рвецца пырнік і хвошч.
Дні чатыры ён князева поле поркаў.
Вярнуўся цяпер:
конь — ня конь,
толькі грыва ды хвост.
Ад такое арбы аж у роце горка.
Как умеў-бы хоць конь за сахою ісьці,
мо' ня так бы жыліўся моцна.
Скіба сам-бы рукамі узяў за канцы
аглоблі сахі і залёг-бы ў пабоцні.
А загон-жа, загон!
Усюды камень ды корч,
зачапіўся нарог, аж рагач недзе трэснуў.
Скіба думаў: ня выгніў, відаць, яшчэ бор,
без карча на загоне такім жыць цесна..
Патужыў ён паліцу і толькі хацеў
пераставіць нарог
і крануцца ў разору, —
пад сахой быццам голас ці плач зазьвінеў,
быццам вецер прынёс шопат бору.
Падчапіў.
Вывярнуў у баразну
дупляватую, смольную сосну.

А ў дупле, у траве - мучанічніку і палыну
дзіцё плача, галосіць жалосна.
Накрыў яго Скіба сярмяжным сваім падалом.
Дома Скібава жонка дзіця накарміла.
Як хадзіла на князева поле жнівом,
пад снапы яго
залатыя насіла.

Хутка рос,
нібы грыб,
Скібы знойдзены сын.
Захадзілі кругамі ў вадзе аб ім слухі ў народзе.
За год пару мінуў ярыны каласы.
перарос канаплі ў агародзе,
Хутка гутарку птушак і ветру пазнаў,
і зьвяроў, што блудзяць у нетрах
і ў гушчарах, аб чым шэпча між траў
гавыла і крапіва,
абымаючыся з ветрам.
А як выйдзе араць, цесны быў яму Скібаў загон:
адверне глыбокую баразну у калена,
то нарогам мяжу пераверне ён,
адарве лата чорная князевай зьмены.
Ці падчэпіць смаляк
— патайнік,
ці гару,
рукой за мяжу пеpакіне...
І таму пачалі каласы ураджаем ікру
ліць у сялянскую мякіну.

Пранюхаў Князь: мужыкі багацей сталі жыць,
маюць хлеб ды з бярозавым сокам.
Загадаў эканомам сваім аблажыць
мужыкоў цяжэйшым аброкам.
Перш цярпелі,
не адзін хоць патыліцу скроб,—
ды і цярпеньне мае сваю меру,
калі высыпаў пот, як чырвоны боб,
на кашулях ад пылу шэрых!
Вось прышлі раз да Скібавага сына усе.
Кажуць: — Што-ж,
вядзі, дзе хачаш!
Хоць туды — на усход,
дзе рана ў аўсе
дзень залоціць сінія вочы;
ці там на захад,
дзе сасновы бор
чэша хмараў мокрую кудзелю;
ці за рэкі, у сінеючы прастор,
дзе туманоў палотны сонца беліць!..
Кажа Вяль, сын Скібы: — Я вас павяду
другой дарогай
і дарогай роўнай.

Бо пашто нам абыходзіць, — не абыдзеш бяду,
не ўцячэш ад яе
ні на усход, ні на поўнач...
Ды каб вы пакінулі ўсё і пайшлі,—
вярнуліся-б у родныя сялібы,
да траў і каласоў,
да копаў,
да зямлі, —
ня хопіць сіл пакінуць потам зрошаныя скібы,
але хопіць сіл жыцьцё перарабіць!
Ці-ж ня можа і для нас калосьсе залаціцца
і расьці, як лес,
пласконі і бабы,
і зары мёд капаць
ў нашыя
дайніцы?!..
І павёў гасьцінцам войска Вяль.
Як зямля зямлёй — ня бачыла такой сілы!
Як шчацінай пакрылася даль,—
ўсюды косы,
вілы
ды вілы!..

II.

Там,
дзе неба
абпёрлася грудзямі
на чорнай, сьвежа ўзоранай зямлі,
там, дзе вымытыя роснымі начамі
ціха тлеюць зоры - гігялі, —
затрымаліся абозы — князя войска
над ракою нязьлічоныя палкі.
Чутна шум калёсаў,
скрып і лоскат,
і гарадь у козлах сьвечкамі штыкі,
пасярэбраныя ночкай - малачаем.
Ўсюды варты крокі роўныя чуваць.
Толькі ціха дрэмлець тонь адна рачная,
ды раскалыханая
калышацца
трава...

За ракою,
за гарамі,
можа далей,
адкуль чоўнам выплывае сіні дзень,
чорнай хмарай - навальніцай войска Вяля
залягло у гавыле, у лебядзе.
Сьпяць лапцюжніцкія чутка раці.

Настаражыліся
аглоблямі вазы,
быццам гусі, што сабраліся падняцца,
і чакаюць асьцярожна на прызыў.

А ў абозе князя гутарка і песьні.
Ходзяць слугі, . . . . . . . . . . . . .
Звоняць шпоры і гараць расшытыя
паясы літыя, шапкі, жупаны.
Закладаюцца на грошы, на пярсьцёнкі,
хто прыцягне багацейшы з іх палоў,
хто затопіць Вялю ў грудзі нож - патронкі,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Адны радзяць: Вялю лепш пятлю накінуць,
каб заўсёды быў страх . . . . . .
ўзяць — павесіць ля дарогі, на асіне,
ці на рогах
залатых
маладзіка.
Хай калыша яго вецер і вароны,
ад заходняе
да ўсходняе зары,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

каб яго не ускрасілі нават звонам
на цымбалах
галасістых
песьняры!..

Ў чыстым полі, пад вясеньнім небам п'яным,
льлюць абозныя агні зару на твар,
Вяля войска ля агнёў, відаць, да рана
не пагасіць дум рабінавых пажар.
Усе радзяць, калі князя яны зломяць,
калі межаў абручы з зямлі сарвуць, —
колькі будуць мець каровы іх саломы,
колькі выпадзе зямлі на галаву!..
Не пахіляць
у паклоне
плечаў нізка —
толькі трэба гэта помніць, адстаяць! —
не заплача над галоднаю калыскай
з тварам сьлёзамі апаленым жняя...
Сонна плюшчаць агні вочы на курганах.
Дзень падзьмуў на зоры ветрам, пагасіў...
Запяялі вазы песьню сваю рана,
як бярозавы рог Вяля серабраным
громам - клічам
над зямлёю
затрубіў.

(Далей будзе).

# Стрэхі за гасьцінцам.

*(М. Машара — „З пад стрэх саламяных“),*

Ледзь ня ўсе, хто пісаў аб творчасьці Міхася Машары, пісалі і разглядалі якраз тое, што таму ці іншаму крытыку падабалася, адначасна праходзілі міма фактаў няменьш важных. Стварыўся пагляд, што Машара гэта паэт стопрацэнтнага аптымізму, або баян *Новай Беларусі...* Зразумела, што такая крытыка нічога не магла сказаць паэту, а тымбольш памагчы вырашыць тыя пытаньні, якія стаяць сяньня перад кожным, і Машара ня быў на гэтым полі выняткам.

Прычынай такога падыходу да творчасьці агулам, былі ня толькі бадзёрыя ноты новай паэзіі, але і той інстынктыўны зрух з няжывога, сьлязьлівага парнасу, на якім яшчэ трымаліся „сваякі“ нашаніўскае пары. Адначасна зрух гэты адбыўся дзякуючы наплыву новых сіл, перадусім з вёскі. Гэта першыя ластаўкі — прадвесьнікі вясны, за якімі трэба спадзявацца новых стадаў і новых бур.

Міхась Машара тыповы паэт вёскі, вёскі каторая стаіць водаль ад вялікіх гасьцінцаў, па якіх ідуць людзі, скрыпяць калёсы абозаў з сялянскай бядой... Куды яны ідуць? І дзе мэта? Ня відаць яе з прасёлачных дарог ды з меж... Толькі паэт чуе, што там, куды ідуць людзі, недзе ёсьць шчасьце, і яны яго здабудуць і здабудуць для ўсіх. Кожная няўдача тых людзей хвалюе паэта, кожны іх адважны крок, калі не парывае за сабой, усё-ж пакідае глыбокі сьлед, улівае надзею ў поступ і веру ў тыя далёкія вехі, якія гараць на народных шляхох...

Там каля бяроз і крыжоў шарэюць сялянскія вёскі і адзінокія хутары, бяз сувязі з сьветам, далёка закіненыя хаты дзісеншчыны, — ды ня толькі дзісеншчыны! — да якіх ледзь даходзяць весткі з шырокага сьвету. Жыцьцё там не завіднае. Межы, палосы, — з якіх „плыве нуда аж да адчаю“, і дарогі, па якіх поўзаюць дзяды з падарожнымі торбамі, з доўгімі і сумнымі песьнямі ды з пакутнымі малітвамі.

Вось адкуль выплыў пэсымізм Машары.

> Сьцюдзена, сьцюдзена, родныя,
> Надта па нашай зямлі...

Сьцюдзена і стаяць „на варце ля хатаў“, дзе

> і дзень і ноч нуда і сум,
> і не падняць апаўшых воч,
> не пабароць маркотных дум...

Гэта пэсымізм глыбокі. Ён ледзь не перараджаецца ў штось стыхійнае з чым нават ня варта прабаваць змагацца, а як ад навальніцы лепш схавацца і *перачакаць* гэты час.

> Запру акно я шчыльна - шчыльненька,
> на сьвет глядзець ўжо сіл няма...

Апошняе ёсьць характэрным ня толькі для паэта. Вёска Машары пакуль што босая, яна яшчэ мо' і „тутэйшая“, — а перадусім, паўтараю, далёкая ад шырокіх гасьцінцаў. Нават агульная бяда яе не зцэмэнтавала грамадзка, а толькі прыціснула, і таму яна больш здатная на пасыўнае чаканьне чагось лепшага... А калі хто і выйдзе раней

на спатканьне „сонца“, — чуюцца, як паэт, асамотненымі. Толькі ў такіх абставінах і мог гэты глыбокі сум, у „чорных ночах“ перайсьці ледзь не ў фаталізм.

І тут блудзіць, брысьці ў пацёмку,
асуджан кожны, хто ня сьпіць...

І таму зразумелымі становяцца словы паэта, якія арганічна мусілі ў яго ў такой, а не ў іншай атмасфэры паўстаць.

Што мне людзі, бяда і пытаньні?
што іх шчасьце?.. мана і дакор..

Можа закіне хто, што мы затрымаліся на „выбраных“ урыўках, якія мусілі служыць палотнамі, на якіх зараджаўся т. зв. аптымізм Машары.

Гэта магло быць. Але вышэй паданыя прыклады, а іх ёсьць цэлая маса, гавораць аб іншым. Ня тут трэба шукаць крыніц аптымізму Машары, бо ў апошніх настроях няма яму мейсца. Апошнія абразы нават у найменьшай меры не маглі быць тым грунтам, з якога магла-б прабіцца сьвежая зелень бадзёрасьці, веры.

Але „чорныя ночы“ і хмары — усё пераходнае. На гэтым паэт ня можа затрымацца. Шукае жыцьцёвых крыніц. Вясна.

Я сяньня вясёлы і рады, —
убачыў расточкі травы.

У расточках травы будзіцца жыцьцё; у паэта будзіцца ахвота да жыцьця.

І так хочацца думам паверыць,
што у сэрцы агонь не пагас...

Пад уплывам вясны, руні, а посьле каласоў, хоць і не сваіх, паэт пакідае „нудзіцца“.

І ў душу маю сьветлай разбродзілай,
з некуль ціхая радасьць прыйшла..

У зямлі прарастаюць зярняты, нават ня гледзючы на халады. Будзіцца патрэба жыцьця. І паэт выпраствае плечы, намуляныя вандроўнымі торбамі, так як і селянін, ня гледзючы на неўраджаі з кожнай вясной выходзіць у поле. „Я жыць люблю“. Гэта ўжо не адасоблены голас, а голас тых каму цяжка жыць і хто ведае, што за свае мазалі, як ніхто іншы мае права да жыцьця.

Аптымізм Машары ад збуджанай зямлі. Ён, як крыніца, зарадзіўшыся з вясеньніх растопаў, прыплывае, бурліць пад сяньняшнімі днямі, не размываючы перашкод, а толькі далёка выбіўшыся на паверхню шырака разьліваецца.

Гэта бадзёрасьць — нахлынуўшая непераможная вясеньняя радасьць палос, а не з далёкіх шляхоў змаганьня здабытая потам.

І можа таму за найбольш яго прызыўнымі нотамі чуеш трагічнае пытаньне: а як сяньня? Ня можна жыць толькі тым, што будзекалісь.

І адзінокі, трывожны і сумны
радасьць чужую у песьнях пяю...

Паэт бароніцца ад нахлынуўшых „чорных начэй“.

Кіну маркоту і буду вясёлым.

Але цяжка быць вясёлым таму, хто глыбака перажыў і перажывае часы гэтых начэй, і таму больш трывогай як прызывам гудзіць звон яго званара:

Каб зноў вясну не праспаць!

І так, пэсымізм, крыніцы якога выплываюць з сучаснасьці вёскі, у паэта можа выступае не на тых палотнах на якіх зарадзіўся; ён пераліўся ў лірыку, і пры гэтым сказаў-бы ў лірыку выключна асабістую і таму робіць цяжкае ўражаньне. Усюды цэнтральнай асобай— паэт, яго „я“, яго перажываньні, якія ў большасьці выпадкаў не зьяўляюцца характэрнымі для цэлай масы, а то нават застаюцца незразумелымі. Зноў-жа буйна расьцвіўшы ў пэрыяд ранейшай творчасьці Машары на дэкадэнцкім адраджэньні бадзёры аптымізм быў клічам празьвінеўшым у пустым полі ня толькі не парваўшы за сабой, а нават не збудзіўшы спадзяваных адгалосаў рэха. Тыповым прыкладам могуць быць вершы п. з. „Беларусь маладая“, „Мара“, „Мой шлях“ і інш. дзе спатыкаем:

У грудзёх ні тугі ні адчаю“...
Мы — сталь зьвінячая вясёла,
мы — хмель бурлівы і жывы і т. д.

Тут усё знойдзем, што можа быць добрым параўнаньнем, мэтафарай, пры нечым канкрэтным, акрэсьленым, але чаго яшчэ мала да новай бадзёрай песьні нашых дзён.

А ўсёж найбольш поўным і найбольш закончаным выяўляецца Машара ў сваей лірыцы! За вельмі рэдкімі выняткамі, дзе яшчэ чуюцца ўплывы іншых, Машара выйшаў на сваю дарогу. У лірыцы, дзе ня чуўся паэт сьцісьненым „рамкамі“ паэмаў, чуецца размах і арыгінальнасьць. Тут, мо' як нідзе так праявілася тое мастацкае адзінства формы і зьместу, чаго ня можна сказаць аб ранейшых яго творах, як „Мамчына Горка“, дзе пасколькі штрыхі прыроды і лірычныя мейсцы стаяць на вышыні, пастолькі неадказвалі ім сваім мастацтвам дыялёгі гэрояў і іх лубачная характэрыстыка.

Гаворачы аб лірыцы Машары, мы мусім вярнуцца да таго зьявішча на літаратурным грунце, да т. зв. апошняга „зруху“. Калі з вонкавай стараны выявіўся гэты зрух, як ужо зазначылі, ў наплыве новых сілаў дык і на грунце ідэолёгічным і мастацкім адбыліся яшчэ большыя зьмены. З аднаго боку пачалася пераацэнка старых вартасьцяў, з другога — шуканьне новых формаў. Праца, можна сказаць, саматужная, тым-больш, што крытыка наша была занятая, як хтось зазначыў, сартаваньнем паэтаў, або растрасаньнем мэтафараў, параўнаньняў і, мо' саромячыся пераступіць граніцы „прызваітасьці“, ня выйшла за рамкі фармалізму, затрымалася якраз на тым, што было вонкавым адбіцьцём гэтага шырокага і глыбокага ня толькі ў нашым літаратурным жыцьці працэсу.

Таму ўвесь час, крытыка цягнулася ззаду, як баляст.

Мейсцамі зазначыўся адрыў ад сяньняшняга дня. Стварыўся пагляд, што тэмы і пытаньні дня — гэта штось ніжэйшае, за што могуць брацца толькі „другарадныя“ паэты. Некаторыя пачалі апрацоўваць матэрыял не клапоцючыся да чаго ён мусіць быць ужыты. Шмат каму, здавалася што досыць яго агладзіць на ўсе чатыры бакі і ён будзе надавацца да ўсяго.

Працэс гэты адбываўся паступова: ад дынамікі і рэалізму, да вершаў зраўнаважаных, ад апошніх да „мастацкіх“ (зьмест грамадзкі тут ужо шкодзіў „добраму тону“) і далей (найвышэйшая ступень) да нічым незахварбаваных вершаў.

Праўда, сяньня не прыходзіцца нам спрачацца за тыя ці іншыя „вартасьці“. Большая частка камяністай дарогі пройдзена, а паасобныя яе адцінкі нам могуць служыць толькі прыкладам, як трэба прабівацца, браць перашкоды каб не затрымацца, каб жыць.

Бязумоўна гэты пэрыяд не прайшоў бязсьледна і ў творчасьці Машары. Калі пачалася перабудова, „на скорую руку“ нашага маладняка, адпаведна да вымаганьняў дня, а нават і старэйшых (эвалюцыя Васілька ў бок сялянскага рэалізму, „народны“ імажынізм Арсеньневай) пачынаецца асьцярожная, але пэўная эвалюцыя Машары.

Эвалюцыя гэта зазначылася ў канкрэтызацыі абразоў і сымболікі. Калі і засталіся яшчэ некаторыя пазыцыі старымі, як у большых выпадках форма, дык з нявычарпаных народных крыніц узбагаціўся стыль і гэтым зблізіў да нас некаторыя перш далёкія вобразы. Найбольш гэта заўважваецца ў лірыцы, у тэй галіне творчасьці, дзе найбольш шырака выявіў сябе Машара. Сьвежасьцю павеяла ці з густой руні, ці з спаленых палос.

Я сваё гора тапіць панясу,
беды павешу на лозах...

Калі вобразнасьць мовы і плястыка вобразаў прыйшла за глыбейшым аналізам мастацкіх вартасьцяў, за крытычнай пераацэнкай старых, дык канкрэтызацыя паэтыцкіх сымбаляў прыйшла разам з бліжэйшым падыходам да жыцьця самога паэта.

Другая рэч, як паэт заглядаецца на сучаснасьць, ці песьнямі чорных начэй з іх пэсымізмам, ці з далёкім аптымізмам. Трэба помніць, што ўжо сяньня паэт прынёс з тых далёкіх ад шырокіх гасьцінцаў, закіненых вёсак работніцкаму цэнтру — гораду і сьлёзы і „упартасьць растучых падзей“...

**Максім Танк.**

22.VII.37

---

МІХАСЬ ВАСІЛЁК

## МАЙ ПЕНІЦЦА.

Май пеніцца соладам, соладам
І думка наскочыць зьнянацку:
Жыцьцё гэтак само, як з моладу,
Цьвіце у задоры юнацкім.

Ды час шпарка коціцца, коціцца...
Эх, моладасьць, стой! — не сьпяшы — ты!
Яшчэ гарэць полымям хочацца,
Яшчэ... шмат чаго не здабыта...

А восеньню позьняю, позьняю
Адцьвіце, адшуміць — усё зьменіцца...
Дык - жа час карыстаць хвілю кожную, —
Што прапусьцім, ужо тое ня вернецца.



# НА ДАЛЁКАЙ ПОЎНАЧЫ.

У канцы траўня газэты ўсяго сьвету падалі вестку, што на ледзяным полі паўночнага полюса апусьціўся праф. Шмідт з мэтаю заснаваць там палярную станцыю.

З увагі на вялікае значэньне для навукі гэтай экспэдыцыі і самой станцыі варта пагутарыць аб тых ваколіцах, дзе яна знаходзіцца, і аб мэтах яе заснаваньня.

Амаль кожнаму ведама, што зямля круціцца, як яйко, калі прабуюць, ці яно моцна зварана. Прыгледзімся яму і мы пабачым, што ёсьць у ім два процілежныя пункты, якія падчас абароту зусім ня рухаюцца, — верх і ніз. Падобна на зямлі. Гэныя нярухомыя пункты пры абароце зямлі і называюцца географічнымі полюсамі ці канцовасьцямі: паўночным і паўднёвым. Ад нас бліжэй да паўночнага полюса — у простай лініі каля 4000 км, а да паўднёвага блізу 16000 км.

Пазнаць полюс, калі мы на ім знаходзімся, можна па зорках (палярная зорка будзе над нашай галавой) ці пры помачы астранамічных прыладаў: унівэрсальнай прылады, тэодаліта, сэкстанта—тых самых, якія нам дазваляюць адзначыць палажэньне абы-якога месца




Паўночны акіян.

на зямлі. Але не пападзём на полюс, калі будзем кіравацца добра ведамым компасам, які здавалася-б даволі дакладна паказвае поўнач. Ён нас завёў-бы ў паўночную Амэрыку да магнэсавага полюса на 2000 км ад географічнага, аб якім мы цяпер гаворым.

У далейшай нашай гутарцы будзем мець на думцы толькі полюс бліжэйшы да нас — паўночны.

Навакол яго ў розныя бакі на працягу пары тысячаў кілямэтраў разпасьціраецца палярны край. Ляжыць ён паміж Эўропаў, Азіяй і Амэрыкай, урэзваюцца ў яго Ціхі і Атлянтыцкі акіян. Усю гэтую аграмадную паверхню займае даволі глыбокі (да 4900 м) Паўночны акіян з параскіданымі выспамі: Грэнляндыяй, Ісляндыяй, Шпіцбэргенам, Зямлёю Францішка Язэпа, Новаю Зямлёю, Нова-Сібірскімі востравамі і шмат інш.

Пануе там холад і цемра.

Усё — і мора і зямля — пакрыта жоўта-шэрым лёдам грубінёю ад 1 да 4 мэтраў, часта пасыпаным асьляпляючым, белым сьнегам. Горы, даліны — з лёду. Белае, халоднае, глыбака згаранае поле. На зямлі яно трымаецца разам і вельмі памалу сплывае ў ніжэйшыя часткі аж да мора. Але акіян ёсьць у вечным руху; марское цячэньне, сільны паўночны сівер нясуць палі лёду, рвуць іх на вялікія крыгі, якія насоўваюць адну на другую. Стары, адвечны лёд трашчыць, шарахціць, грыміць. Гул яго чуваць на дзесяткі кілямэтраў. Дзе-нідзе плывуць вышэйшыя горы з лёду — айсбэргі — страх караблёў і параходаў.

Улетку лёд трохі тае, але толькі зьверху робяцца лужыны. Ня бывае там горача. Вось і цяпер там падае сьнег, у паветры носіцца ледзяны туман, тэмпэратура ніжэй нуля, да 10 градусаў марозу, амаль так, як у нас зімою, а зімовы мароз даходзіць да 50 градусаў.

Ясна, што ў такіх варунках жыцьцё немагчыма. Яшчэ на берагох Ісляндыі, Грэнляндыі, Амэрыкі і Сібіры жывуць людзі: тамашнія-самаеды або эскімосы і эмігранты з Даніі, Норвэгіі, Швэцыі. Падчас кароткага лета зеленеюць тут лугі, красуюць кветкі. Эскімосы ўжо вельмі добра прытарнаваліся да жыцьця ў гэных недаступных краёх. Яны ўмеюць будаваць з сьнегу і лёду адносна цёплыя хаты, шыюць спэцыяльныя мяшкі да спаньня, вопратку з шкураў мядзьведзяў і аленяў, не баяцца выпускацца на маленькіх каяках на хвалі палярнага мора, каб здабыць сабе ежу — рыбаў і зьвяроў. Цывілізацыя іх у адносінах да варункаў, у якіх жывуць асягнула вельмі высокую мэту. Адкуль, калі, чаму і як узяліся ў няпрытульных краёх паўночных вастравоў эмігранты, даведаемся пазьней, калі будзем гутарыць аб гісторыі адкрыцьця паўночных земляў. У моры паміж выспамі, заселенымі эскімосамі, жывуць вялікія палярныя зьвяры: кіты, белыя мядзьведзі, палярныя сабакі і іншыя. На лёдзе можна сустрэць белых зайцаў, пірапёлак, а ў паветры пабачыць featureзнага роду кагарак, паўночных арлоў і варон. Аднак, чым больш прыбліжаемся да полюса з таго ці іншага боку, жыцьцё што раз замірае і ўрэшце ў адлегласьці 700 km у розных кірунках ад канцавосься няма ніякага на верхні жыцьця. Толькі ў глыбі мора трымаюцца дробныя жывёліны і расьлінкі. Перад вачыма аграмадная, ледзяная пустыня. Кажучы аб жывых стварэньнях, варта ўспомніць аб тых найменьшых, якіх мы ня можам пабачыць, а якія нязлічаным мноствам снуюць усюды навакол нас — аб бактэрыях. Адныя з іх разносяць хваробы, іншыя— выклікаюць гнаеньне целаў. Вось-жа ані адных, ані другіх там амаль няма. Здаралася ня раз, што падарожнікі падалі ў вопратцы ў ледавое мора, былі зусім прамокшы, усё на іх абмярзала і на іх-жа высыхала, а яны зусім не хварэлі; рэчы загінуўшых падарожнікаў ля-

жалі па некалькі гадоў і ня гнілі. Пацьверджаюць гэты факт і навуковыя досьледы над бактэрыямі. Большасьць гэтых малых стварэньняў ня вытрымоўвае марозу ў 50 градусаў.

Таму можна сказаць, што паветра палярных краёў нязвычайна чыстае; другога такога не знайсьці на зямной кулі.

Прычынаю вялікага холаду ў падполюсных краёх зьяўляецца тое, што яны атрымліваюць вельмі мала цяпла ад сонца. Праўда, іх дзіўнае лета, гэта быццам даўгі, паўгадовы дзень. Сонца вясною паказалася на небасхіле і ўжо не хаваецца, вандруе навакол над зямлёю, падымаючыся што раз вышей да 24 чэрвеня, потым памалу апускаецца, а ўвосені хаваецца пад зямлёю на працяг доўгіх зімовых месяцаў. Але ўвесь гэты час сонца стаіць нізка, грэе слаба, больш-



Ледзяное поле, пабітае на паасобныя крыгі. На аднэй з такіх крытаў заснавана савецкая палярная станцыя.

меньш так, як у нас у студні. Потым пачынаецца жудасная, безпрасьветная палярная ноч - зіма. Толькі ад часу да часу выплывае месяц, вандруе 2 тыдні навакол падобна, як сонца летам і зноў зьнікае. І вось тагды, калі застаецца толькі скупое, цьмянае сьвятло зорак, палярныя падарожнікі бываюць ня раз сьведкамі цудоўнага зьявішча, якогя ня можна перадаць ніякімі славамі, а якое завецца паўночным зьзяньнем. Сьветавыя стужкі лятуць па небе, зьбіраюцца ў фіранкі, разьвіваюцца, выгінаюцца ў чароўныя дугі, ажыўляюць на хвіліну бязмежны ледавы пустыр і гінуць гэтак сама раптоўна, як зьявіліся. Часамі паўночнае зьзяньне бывае такое яснае і сільнае, што можна наглядаць яго нават у нас у форме сьветлага, шырокага стаўба ў паўночным напрамку. Выясьненьня гэтага нязвычайна прыгожага зьявішча вучоныя шукаюць у магнэсавым полі зямлі, ў зьяньні катодных праменьняў сонца, выладаваньнях атмасфэрнай электрыкі, але дагэтуль яшчэ не знайшлі нічога пэўнага.

---

Дзікія, недаступныя палярныя краі даўно ўжо вабяць да сябе людзей. Шмат падарожнікаў і караблёў згінула ў неспакойным лёдзе, а ўсё ідуць новыя і новыя.

Цяперашнія палярныя экспэдыцыі маюць на ўвеце перадусім наступныя мэты: 1) лепш пазнаць гэтыя краі для самай навуковай цікавасьці, 2) пазнаць магчымасьць выкарыстаньня Палярнага мора, як падарожнага шляху марскога ці паветранага паміж Эўропай і Амэрыкай, 3) — найважнейшая ў сучасную пару — добра пазнаць і пазнаваць бязупынку пагоду паўночных краёў.

Ведама сучаснай мэтэоролёгіі (навука аб пагодзе), што «пагода робіцца на поўначы». Аграмадныя масы халоднага паветра, якія там зьбіраюцца, дзякуючы розьніцы тэмпэратуры, ціску паветра і вятрам — твораць вялікія віры паветраныя, ці як іх інакш называюць— цыклёны. Цыклёны вандруюць у цяплейшыя краі, да нас, найчасьцей праз Ісляндыю і выдатна ўплываюць на нашую пагоду. Вось-жа, калі-б ведаць дакладна, дзе паўстае цыклён, куды і як ён вандруе на пачатку свайго істнаваньня, можна было-б шмат лепш, чым цяпер, прадбачыць пагоду, а нават прабаваць прадугледзіць яе на даўжэйшы час, а гэта ў сваю чаргу шмат памагло-б у жыцьці.

З гэтай найбольш «моднай» трэцяй мэтай закладаюць паўночныя гаспадарствы цяпер ужо сталыя палярныя станцыі на выспах, якія там параскіданы.

У 1917 г. былі 4 такія станцыі; цяпер — ужо ёсьць 56. У 1929 г. была пабудавана на зямлі Францішка Язэпа станцыя найбольш высуненая на поўнач у 1000 км ад полюса; потым Саветы заснавалі яшчэ адну, трохі далей — на востраве Рудольфа.

Аб арганізацыі г. зв. міжнародных палярных гадоў скажам у іншым мейсцы.

Гэныя станцыі па радыё падавалі і падаюць вынікі сваіх спасьцярогаў перадусім над пагодай.

Не хапала ўсьцяж дадзеных з найважнейшай часткі зямлі — з ваколіцаў самога полюса. І вось пару гадоў таму назад ведамы савецкі палярны дасьледчык праф. Отто Шмідт*) падаў праект заснаваць такую станцыю на плывучым падполюсным лёдзе. Плян цяжкі да зьдзейсьненьня, але магчымы, бяручы пад увагу вялічыню падполюсных крыгаў і таўшчыню адвечнага палярнага лёду. Зрэштаю ня раз палярныя падарожнікі ратаваліся плывучы на лёдзе, калі гэты самы лёд разьбіваў іх караблі.

У 1934 г. пачалася падгатоўка. Было выкананых некалькі дзесяткаў палётаў, каб дасьледаваць магчымасьць зьдзейсьненьня пляну, Пастаноўлена завязьці людзей, інструмэнты, правіянты ледаколам на востраў Рудольфа, а адтуль самалётам да полюса. Самалёты ня могуць забраць шмат багажу, трэба рабіць усё так, каб было магчыма лягчэйшае, але адначасна, каб ежы, адзеньня, газы да агрэваньня хапіла на 1½ гады для чатырох чалавек. Палярная экспэдыцыя мусіць быць вельмі старанна прыгатаваная з увагі на адлюднасьць краю, у які едуць падарожнікі. Асабліва ўважна і добра трэба прыгатаваць ежу, бо недахоп яе, ці дрэнны дабор выклікае страшную хваробу — шкорбут. На цяперашнюю савецкую экспэдыцыю амаль усё прыгатавана ў парашку: мяса, яйкі, малако, катлеты, гарох і г. д.

---

*) Лічыць сябе беларусам. Паходзіць з Віцебшчыны.

Прадуктаў пайшло вельмі многа, прыкладам на 20 пудоў курынага мяса-парашку, забілі 5000 курэй. Вопратка зроблена старанна з найлепшай воўны, шкуры воўчай і аленяй, усе прылады з алюмінію ці дзерава. Толькі інструмэнты астранамічныя, мэтэоролёгічныя і іншыя засталіся больш-меньш такімі, як звычайна, толькі прытарнаваны да вялікага марозу з частым туманом.

Летам прошлага году амаль усё было завезена на востраў Рудольфа. У канцы траўня сёлета 4 самалёты забралі адтуль людзей, увесь багаж (больш чым $^{1}/_{2}$ мільёна пудоў) і паляцелі на полюс. У першым самалёце ляцеў праф. Шмідт, які выбраў пры самым полюсе крыгу на $2^{1}/_{2}$ km даўжынёю, $1^{1}/_{2}$ km шырынёю і 3 m таўшчыні. Спусьцілася на яе 29 чалавек, якія памагалі ўсё уставіць і ўлажыць. Рэчы разлажылі ў розных мяйсцох крыгі, каб ня ўсё прапала ў выпадку, калі-б лёд трэснуў і разламаўся. Паставілі хатку для 4 асобаў у форме малога гангара з алюмініевых слупкоў, гумовых сьценак надутых паветрам, з такой самай падлогаю. Хатка абложана навокал пухам і пакрыта чорным матэр'ялам, каб якнайбольш уцягнуць летам сонечнага цяпла. Яна такая лёгкая, што яе можа перанясьці адзін чалавек. У кутку пастаўлена газавая печка-прымус; на ёй будуць варыць есьці. Ваду да стравы атрымліваюць з сьнегу, прычым, калі ён вельмі цьвярды і зьбіты, пілуюць яго пілою. Здалёк апрача чорных сьценак хаткі відаць ветраныя крыльлі. Пры іх помачы будуць вытвараць электрыку для асьвятленьня і для радыёстанцыі, дзьве вежы якой выбіваюцца ў сьнегавы туман.

Ддзякуючы радыё учасьнікі экспэдыцыі маюць лучнасьць з цэлым сьветам, перадусім з Масквой. Па радыё яны перадаюць 4 разы ў дзень спасьцярогі пагоды, па радыё могуць гутарыць з сваімі сем'ямі (па 60 слоў у месяц), па радыё дадуць знаць, калі ім будзе пагражаць небясьпека. Самалёты прыляцяць ім на помач.

Калі ўсё была ўстаноўлена, памоцнікі ў ліку 25 асоб адляцелі разам з праф. Шмідтам назад, а там засталіся: кіраўнік экспэдыцыі — Папанін, астраном Фёдараў, радыётэлеграфіст Крэнкель і біолёг Шыршоў.

Марское цячэньне адносіць памалу іх станцыю ў бок Амэрыкі; астраном часта вызначае мейсца, дзе яны знаходзяцца; абсэрвацыі пагоды робяць усе што гадзіну; біолёг мерае глыбіню мора, ловіць у ім жывёлінкі і расьліны, дасьледуе лёд; Крэнкель надае тэлеграмы, прыймае па радыё весткі з сьвету, а найбольш часу пасьвячае пакуль што на фільмаваньне ўсяго, што выдаецца цікавым.

---

Тымчасам лепшыя савецкія лятуны чакалі толькі, каб станцыя пачала працаваць, а пры першых вестках аб даволі добрай пагодзе пусьціліся ў дарогу, якая даўно была іх лятуценьнем: Масква — полюс — Сан Францыско (у Амэрыцы). Першы паляцеў Чкалаў, які трохі блудзіў і робячы каля 12000 km не даляцеў да вызначанай мэты. Але ў хуткім часе газэты падалі вестку, Громаў пабіў дасюлешні рэкорд пралятаючы над полюсам, па простай лініі без затрыманьня 10800 km ($^{1}/_{4}$ частка абводу зямлі) у працягу 62 гадз. 17 мін. Ён пераляцеў Сан-Францыско і апусьціўся блізка Мэксыкі. На аснове гэтых пералётаў савецкія лятуны кажуць, што ў хуткім часе можна будзе ўтварыць сталую камунікацыю паміж Масквой і Амэ-

рыкай цераз полюс. Амэрыканцы аднак уважаюць інакш, і чутно, што Урад Злучаных Штатаў забараніў нават сваім лятунам ляцець у адваротны бок *), г. зн. да Масквы з увагі на тое, што такі пералёт ня мае ніякага практычнага застасаваньня.

Аднак Амэрыка выслала пад кіраўніцтвам ведамага мэтэоралёга Мак Грэгора сваю экспэдыцыю для навуковага дасьледаваньня палярных краёў. Мак Грэгор мае нават адведаць савецкую плавучую станцыю.

Такім чынам сучасныя людзі здабываюць палярны край. Асягненьні гэтыя зьяўляюцца вынікам даўгавечнай вайны чалавека з магутнай і дзікай прыродаю, у якой ён паволі пасоўваўся крок за крокам. Часамі выходзіў пераможцам, часьцей трупамі засьцілаў далёкія ледзяныя палі. Аднак, калі паміраў, дык толькі ад рукі бязлітаснай прыроды, якая прызнае выключна свае правы, а ніколі — ад рукі такога, як сам чалавека.

Таму гісторыя гэтых змаганьняў — адна з найцікавейшых у гісторыі чалавецтва — ёсьць адначасна і найбольш шляхотнай.

Пагаворым аб ёй у наступных нумарох.

**Н. Г.**

Ліпень 1937 г.

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## ЗАГАРЭЛІСЯ ІСКРАМІ ЗОРНЫМІ.

Загарэліся іскрамі зорнымі
над дрыгвою балот, над разорамі
зоры ясныя, зоры бліскучыя,
што з зямлёю навекі разлучаны.
І шумела палоска калосьсямі
ды шумела да познае восені...

Не вятры праляцелі над хатаю
і не хмары цяжкія, кудлатыя,
не арлы наляцелі, не сокалы
з неба яснага, з неба высокага.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не пыталі, ці зжаты, ці скошаны
ці хоць дзьве засталося гарошыны;
не пыталі ці ў пору пасеяна,
ці ў гумно хоць прывезена сеніна...

Засталіся пяць пар вочкаў сіненькіх,
засталіся чакаці на выніку...
Ды шумела, шумела да восені
Недажата палоска калосьсямі.



*) Паводле газэт ужо дазволена.

# Хатняе навучаньне.

У беларускім грамадзянстве і прэсе справа хатняга навучаньня і самаадукацыі даўно пастаўлена на парадак дня. З кожным годам яна набывае большага і большага значэньня і актуальнасьці. Сучаснае жыцьцё народаў — палітычнае, эканамічнае, нацыянальнае — йдзе такім прысьпешаным тэмпам, сусьветныя падзеі разьвіваюцца з такою калейдаскапічнай хуткасьцю, што кожны народ, вялікі і малы, дзяржаўны і недзяржаўны, каб захаваць сваё месца пад сонцам, каб не астацца на задворках жыцьця, робіць зараз найвялікшы высілак у кірунку самаўсьведамленьня, сабіраньня і ўзмацаваньня сваіх сілаў— моральных, фізычных і матар'яльных. Таму і беларусы, калі яны хочуць быць будаўнічымі свайго жыцьця, хочуць шырака карыстацца ўсімі здабыткамі культуры і заняць «пачэсны пасад між народамі», павінны што раз болей і болей выяўляць творчай працы, самаўсьведамленьня і зацікаўленасьці ўсім, што робіцца на шырокім сьвеце, а перадусім у сваей хаце. Да гэтага ёсьць толькі адзін шлях — асьвета, у самым шырокім значэньні слова. Зараз усё грамадзянства нашае мусіць выйсьці на барацьбу з нашай векавой цемрай, адсталасьцю і некультурнасьцю. Толькі сваёю працаю, сваёю ахвярнасьцю і няўстанным высілкам, перамагаючы ўсялякія перашкоды, зможам узбагаціць народнае жыцьцё пэўнымі дасягненьнямі сучаснае навукі, тэхнікі і культуры і забясьпечыць шырокае і вольнае разьвіцьцё творчых сілаў народу. З усіх магчымасьцяў, якія вядуць да гэтае мэты і даступны ў сучасных умовах, хіба найбольш рэальнымі зьяўляюцца хатняе навучаньне і самаадукацыя. Цяпер надыйшоў час, які ўладна вымагае пашырыць такую саматужную — у галіне народнае асьветы — працу на ўсе нават самыя глухія куты нашае Беларусі, і ўцягнуць у яе ўсе жывыя і дзейныя сілы народу. Шляхам хатняга навучаньня і самаадукацыі ўнясём больш і больш сьвятла ў нашую занядбаную вёску і паможам ёй весялей і ясьней глянуць на шырокі Божы сьвет.

---

У гэтым артыкуле парушаем пакуль справу *хатняга навучаньня*, пад якім разумеем першапачаткавае навучаньне беларускае граматы (чытаньне, пісьмо, пачаткавая арытмэтыка). Самаадукацыя — паняцьце шырэйшае: пад ім разумеецца далейшае разьвіцьцё навыкаў чытаньня, пісьма і лічэньня, — далейшае здабываньне веды і самаўсьведамленьне — нацыянальнае, культурнае, эканамічнае, палітычнае і г. д.

Пачаткавая грамата — гэта першая ступень усяе сыстэмы навучаньня, гэта — ключ да пазнаньня жыцьця і прыроды, гэта — падстава ўсяе далейшае работы ў працэсе фармаваньня сьвядомае адзінкі. Хто ня вучыўся пачаткавае граматы, той ужо не навучыцца нічога. Дзеля гэтага як-жа важныя першыя заняткі па буквару, якой яны вымагаюць увагі і дакладнасьці з боку ня толькі тых, хто будзе вучыць, але і наагул з боку беларускага грамадзянства! *Арганізацыя хатняга навучаньня — гэта справа вялікага грамадзкага значэньня.*

Мэтай нашага артыкулу ёсьць адказаць — магчыма коратка — на галоўнейшыя пытаньні, якія паўстаюць пры арганізацыі хатняга навучаньня: хто, каго і калі павінен вучыць і як трэба вучыць, каб быў дасягнуты найлепшы рэзультат.

*Вучыцелем можа быць усякі* ці то з сваей сям'і, ці з чужой, абы толькі ён быў больш - менш граматны. Далей могуць і павінны вучыць беларускія гімназісты і студэнты, якія прыяжджаюць на вёску на лета і на сьвяты калядныя і вялікодныя. Стала, круглы год могуць вучыць — як гэта ў нас ужо даўно і завялося — т. зв. «дырэктары», з былых вучняў беларускіх гімназіяў ці старэйшых клясаў 7-клясовае пачаткавае школы. Наканец, «кнігі ў рукі» і ўсім наагул, хто належыць да т. зв. вясковае інтэлігэнцыі і мае адукацыю вышэйшае, сярэдняе ці спэцыяльнае школы.

Хаця навучанье пачаткавае граматы ёсьць справа ня лёгкая, якая вымагае спэцыяльнае веды, аднак, калі вучыцель мае любоў да дзяцей, прадумывае сваю работу, — калі ён кантралюе яе ці то адпаведнымі кніжкамі, ці то радамі больш дасьведчаных людзей, тады ён пераможа ўсе труднасьці і хутка «паставіць на ногі» сваіх вучняў. Хатняму навучаньню, разумеецца, трудна зраўняцца з навучаньнем у школе, дзе ў руках кваліфікаванага вучыцеля ёсьць усе неабходныя пасобнікі і мэтадычная літаратура, аднак яно мае тую перавагу, што працаваць з некалькімі вучнямі куды лягчэй, чымся мець перад сабою некалькі дзесяткаў вучняў.

*Вучыцца беларускае граматы павінны ўсе дзеці ў школьным веку* — ня толькі тыя, якія, з прычыны нястачы мейсца, апынуліся за парогам школы, але і тыя, якія ходзяць у школу, калі яны ня ведаюць беларускае граматы*). Абавязкава трэба, каб селі за буквар і тыя хлопцы й дзяўчаты з вясковае моладзі, якія з тае ці іншае прычыны ў сваім часе не навучыліся беларускае граматы. Навучыўшыся граматы, яны не пашкадуюць патрачанага часу: пасьля буквару колькі ўжо ёсьць магчымасьцяў чытаць іншыя кніжкі, часапісы і г. д. Шмат набраць вучняў адзін вучыцель ня можа, бо інакш гэта была-б «школа», якая вымагала-б зацьвярджаньня ўладаў, пэўных кваліфікацыяў для вучыцеля і г. д. Але вучыць некалькі вучняў (раней ў гэткіх выпадках лік вучняў не перавышаў 8-х) можа кожны, ня пытаючыся дазволу і нікога не паведамляючы.

*Калі вучыць?* Разумеецца, ува ўсякую пару, калі можа вучыцель і вучні, за згодаю бацькоў. Адно толькі пажадана, каб вучэньне адбывалася больш-менш у адну і тую-ж пару дня, у пэўныя дні, з большаю ці меншаю рэгулярнасьцю. Гэта мае ўзгадаваўчае значэньне.

З *падручнікаў* трэба мець перадусім беларускі буквар «Першыя зерняткі», які ёсьць у нас пакуль адзіным, надрукаваным *гражданкаю* — нашым гістарычным і нацыянальным шрыфтам. На вокладцы гэтага буквару надрукованы кароткія правілы, «Як вучыць чытаць і пісаць». Кожын вучань павінен мець свой буквар: яму тады лягчэй будзе вучыцца, ён будзе тады больш яго берагчы, прывучыцца шанаваць кніжку і наагул парадак, што так важна ў жыцьці. — Заняткі з пачаткавае арытмэтыкі мо' і не вымагаюць на першых лекцыях асобнага падручніка, але ён патрэбны будзе пры далейшым наву-

*) Хатняе навучаньне павінна абымаць так-жа і дарослых.

чаньні, калі вывучаецца другі дзесятак, і далей у межах 100. З свайго боку маглі-б рэкамэндаваць падручнікі: для першага году — дзеяньні ад 1 да 20 — А. Гурскі, «Наглядны арытмэтычны задачнік», дзеяньні ад 1 да 100 — Г. Юрэвіч, «Задачнік для пачаткавае школы», для другога году — С. Рак-Міхайлоўскі. «Арытмэтычны задачнік для пачатковых школ» ч. II.

*Як вясьці навучаньне граматы?* Мы ўжо зьвярнулі ўвагу на правілы, якія зьмешчаны ў самым буквары. Гэтыя правілы трэба кожнаму некалькі разоў прачытаць і іх прадумаць добра. Там даюцца практычныя парады, якія закранаюць розныя мамэнты навучаньня. Чытаючы іх трэба ўмець выдзяляць, што датычыцца кожнае данае ступені навучаньня. На важнейшыя з гэтых правілаў лічым патрэбным зьвярнуць увагу на гэтым месцы:

I. самае важнае пры навучаньні граматы — гэта тое, каб памагчы вучню якнайлягчэй і якнайхутчэй пазнаць і моцна ўтрымаць у сваей памяці фігуру дадзенае буквы і адпавядаючы ёй гук, каб кожны раз, як убачыць гэтую букву ці спаткае яе ў слове, адразу-ж правільна і выгаварываў яе ці прачытаў у слове. Бачыш букву — адразу-ж вымаўляй і адпавядаючы ёй гук. Каб памагчы вучню хутчэй утварыць такую сувязь (асоцыяцыю) буквы і гука, ёсьць шмат спосабаў, але мы зьвернем увагу на найпрасьцейшы, іменна: хай вучань шукае дадзеную новую букву ў другіх мейсцах буквара, або ў другой якой беларускай кніжцы ці ў старой газэце (там у абвестках можна спаткаць вялікія буквы), пакуль яна моцна не засядзе ў галаве. Але найлепшы — гэта карыстаньне буквамі т. зв. рухомае азбукі. На жаль, беларусы яе ня выдалі; добра было-б неўзабаве выдаць.

II. З першых-жа шагоў трэба даць да зразуменьня, што ў кніжках друкуюцца не якія-колечы асаблівыя словы, я тыя самыя, якія мы штодня ўжываем у сваіх гутарках, а дзеля гэтага і вымаўляць іх *па кніжцы* трэба так, як мы звычайна гаворым: лапа, паша, пах, пух, лапух, каса, кара, кума і г. д.

III. Чытаць заўсёды трэба цэлымі словамі, а не па складам.

IV. На самых буквах, як такіх, ня трэба доўга задзержывацца: з кожнай новай буквай трэба звыкацца ў словах, мяняючы іх якнайбольш.

V. Ня можна дапускаць такога вымаўляньня паасобных букваў: бэ, вэ, гэ, дэ, жэ, зэ. . . ка, ха, ша. . . эс, эр, эм, эн і т. п., а толькі такое: б', в', г', д', ж', з'. . . к', х', ш'. . . с', р', м', н'. . . ;

VI. Хай вучыцель сам ніколі не паўтарае няправільнага вымаўляньня букваў ці слоў. Вучыцель, як правіла, заўсёды павінен даваць толькі правільныя ўзоры.

VII. Калі вучань чытаючы робіць памылкі, дык вы толькі дайце да зразуменьня, што нядобра чытае, і самі не папраўляйце, не падказвайце: хай вучань лепш угледзіцца, прыпомніць і сам выбіваецца на правільную дарогу; хай сваім высілкам перамагае ўсе труднасьці, а не чакае помачы вучыцеля. Вучыцель толькі наводзіць, кіруе ў патрэбным напрамку і г. д. і — ня болей таго.

VIII. Трэба кожны дзень паўтараць увесь раней вывучаны матар'ял ці частку яго. Хай бяз вучыцеля ці каго другога, добра граматнага, вучань сам па-за лекцыяй, асабліва на першых ступенях навучаньня, ня чытае, бо можа набыць шкодныя навыкі; пасьля прыдзецца перавучваць.

IX. Каб словы, якія чытаюцца на пачатку буквара, ня былі словамі бяз сэнсу, трэба дагаць іх у пэўных сказах (гл. «Першыя зерняткі» — на вокладцы).

X. Усё навучаньне трэба вясьці не сьпяшаючыся, асабліва напачатку; калі зрабіць добры грунт, дык далей пойдзе лягчэй і хутчэй.

XI. Чытаць трэба заўсёды з разуменьнем, сьвядома, думаючы аб тым, што чытаеш, і заўсёды бачачы вачыма чытанае слова; чытаць ня гледзячы ў кнігу ня можна.

*Пісьмо* найлепш пачынаць трохі пазьней, калі вучань будзе ўжо чытаць у межах першых 10—15 букваў. Раз пачаўшы, трэба вясьці пісьмо кожную лекцыю, раўналежна з чытаньнем. Галоўнейшыя правілы пісьма гл. у буквары.

Вельмі пажадана, каб лекцыі граматы не абмяжоўваліся толькі чытаньнем па буквару і пісьмом. Трэба наагул разьвіваць дзяцей умыслова, узбагачаць іх душу новымі прадстаўленьнямі і вобразамі, будзіць пэўныя пачуцьці і г. д. Дасягнуць гэтага можна адпаведнымі гутаркамі, апавяданьнямі, чытаньнем дзіцячых кніжак, вершаў, зывучваньнем вершаў на-памяць і г. д. Хай і самі дзеці дзеляцца з вучыцелем сваімі ўражаньнямі, чытаюць ведамыя ім вершы, расказваюць казкі і г. д.

У праграму працы па хатняму навучаньню неабходна ўключыць і пачаткавую арытмэтыку. Перадусім трэба якнайгрунтоўней вывучыць першы дзесятак — прыклады і задачы на ўсе чатыры дзеяньні. Такім-жа парадкам вывучаецца і другі дзесятак, а там далей — у межах соткі. Навучаньне павінна вясьціся, асабліва пры праходжаньні першага і другога дзесятку, на конкрэтных ці жывых прадметах (фасоля, бульба, каменчыкі і пад.). Найважнейшае пры навучаньні арытмэтыкі — гэта вусныя рахункі. Рахункі на пісьме, хаця таксама рэч вельмі неабходная, але на першай ступені хай забіраюць менш часу.

---

Хатняе навучаньне пачаткавае граматы ня ёсьць чымсь новым у нашай вёсцы. Яно было ведама яшчэ ў «Нашаніўскую» пару (чытай «Новую Зямлю» Я. Коласа), яно даволі пашырана і ў нашыя дні. Але калі цяпер беларускае грамадзянства кладзе на хатняе навучаньне асаблівы націск, дык гэта дзеля асаблівага яго значэньня ў сучасны момант, чаму і трэба яго пашырыць да апошняе хаты, апошняе вёскі, надаючы большы *размах, працягласьць і арганізаванасьць*.

Пэўна, знойдуцца бацькі, якія скажуць так, як гаварылася «в доброе старое время»: — «Нашыя дзяды пражылі бяз граматы, пражывуць і нашыя дзеці». Аднак пара ўжо скончыць з гэтым непаразуменьнем. Цёмныя людзі ня ведаюць, што гавораць і чаго пазбаўляюць сваіх дзяцей, адбіраючы ў іх буквар. Такім людзям трэба адчыніць вочы

на карысьці навукі і паказаць, колькі траціць у жыцьці чалавек няпісьменны.

На перашкодзе ў арганізацыі навучаньня граматы моʼ ня раз стануць і цяжкія гаспадарчыя, хатнія і іншыя ўмовы жыцьця. Але-ж ніхто ня дасьць, бо ня можа даць рады, каб у гэтых выпадках, як і падчас розных іншых жыцьцёвых няўдач, бязсільна апускаць рукі і не старацца праціўдзеяць ім і перамагаць іх. Тут павінны ўзяць голас і суседзі і ўся вёска, бо навучаньне дзяцей ёсьць справа ня толькі хатняя, але і грамадзкая.

*Калі пачынаць навучаньне граматы?* А зараз, не адкладаючы на нейкі неакрэсьлены час. «Адклад ня йдзе на лад», гаворыць мудрая прыказка. І пашто адкладаць? Пашто дарма траціць дарагі час? Для навучаньня трэба выкарыстаць кожную вольную ад гаспадарчае працы хвіліну. Калі яшчэ няма кніжак, трэба зараз-жа дастаць іх (можна выпісаць праз «Летапіс» ці беспасярэдна з кнігарні, прыслаўшы патрэбныя грошы). Калі няма вучыцеля, трэба зараз-жа падумаць аб ім. Усё дзеля таго, каб хутчэй пачаць навучаньне. Работы будзе ня мала, а за адну зіму, калі звычайна бяруцца за кніжку, мала можна зрабіць. *Як норма, за год трэба навучыць чытаць і пісаць у межах усіх букваў нашае азбукі і прайсьці ўсю чытанку, якая зьмешчана ў буквары, такжа навучыць свабодна лічыць у межах да 20, азнаёміўшы з 4-ма дзеяньнямі.* Калі гэтая праграма выпаўнена, перад вучнем адчыніцца магчымасьць самастойнага і свабоднага чытаньня кожнае кніжкі, датарнаванае да дзіцячага ўзросту, — ён зможа элемантарна пісаць і мае грунт для далейшага вывучэньня нумэрацыі чысла. На практыцы, разумеецца, будуць большыя ці меншыя адхіленьні ад гэтае праграмы ў адзін ці другі бок, але мы мусім зазначыць межы навучаньня ў першым годзе, каб можна было перайсьці да праграмы самаадукацыі пасьля буквару.

Што датычыць дзяцей, дык іх, за рэдкімі выняткамі, ня трэба ўгаварываць, панукаць ці прымушаць да навукі. Дзеці любяць і хочуць вучыцца. Трэба толькі зацікавіць іх вучэньнем, нясьці ім больш уважлівасьці і любові, ніколі ня ўжываючы крыку ці лаянкі. Кожная лекцыя павінна адбывацца ў супакоі, вытрыманасьці і парадку. Калі вучань хоча нешта расказаць ці прачытаць верш, вучыцель мусіць цярпліва ўсё выслухаць і паправіць, дзе трэба. Вывучэньне на-памяць вершаў мае вялізарнае значэньне для развіцьця мовы, таму трэба, каб вершаў (з буквара ці другіх кніжак) вывучывалася якнайбольш.

На заканчэньне артыкулу да рэчы будзе яшчэ раз падкрэсьліць, што пачаткавая грамата ня ёсьць самамэтай, хаця ўжо дае пэўныя карысныя і патрэбныя ў жыцьці навыкі. Пачаткавая грамата — гэта мост да далейшага саманавучаньня, самаадукацыі. Перад кожным, хто вучыўся граматы, наперадзе вялікая, далёкая, бязьмежная дарога. Ад нас самых, і толькі ад нас залежыць ісьці гэтаю дарогаю ўсё наперад і наперад, у шырокі, вольны сьвет, узбагачаючы скарбы нашага народу і ўслаўляючы і пашыраючы добрае імя Беларусі.

**С. Паўловіч.**



# З мінуўшчыны беларускага руху.

*(Успаміны).*

II.

У Вільні з павадыроў беларускага руху я застаў бадай аднаго Бурбіса — іншыя ці то былі на правінцыі, ці хутка павыехалі ў вышэйшыя школы, калі толькі быў яшчэ хто із студентаў апроч братоў Умястоўскіх. Сярод старэйшага грамадзянства працаваў у беларускім руху і стары Умястоўскі, бацька Пранука і Вітальда, радны Гарадзкой Думы.

У працягу пэўнага часу — да кастрычнікавых падзеяў — кіраўніцтва рухам спачывала ў нашых з Бурбісам руках. Праца наша вялась сярод вучнёўскай моладзі — гімназіяльнай, як хлапцоў, так і дзяўчат, хіміко-тэхнічнай школы і праваслаўнай духоўнай сэмінарыі. З прозьвішча прыпамінаю толькі гімназістку Ядзю Умястоўскую, вучняў хіміко-тэхнічнай школы — братоў Палькоўскіх і сэмінарыста Хлебцэвіча, другога сэмінарыста, ягонага таварыша, прозьвішча не прыпомню.

З кастрычнікавымі падзеямі ажывіўся і беларускі рух. У Вільню пад'ехалі: Цётка-Пашкевічанка, браты Умястоўскія, а пазьней Вацлав Іваноўскі і браты Луцкевічы.

На паседжаньні Гарадзкой Думы, куды былі пакліканы прадстаўнікі ўсіх рэволюцыйных партыяў, знаходзячыхся ў Вільні, мне прыйшлося быць прадстаўніком Беларускай Рэволюцыйнай, ці то ўжо Соцыялістычнай Грамады. У якім часе Беларуская Рэволюцыйная Грамада зьмяніла назоў на Беларускую Соцыялістычную Грамаду і апрацавала праграму — не прыпамінаю.

Калі застрэлена было 6 чалавек — учасьнікаў дэмонстрацыі 17 ці 18 кастрычніка — мы пастанавілі выдаць адозву да салдатаў. Сабраўшыся ў трох з Цёткай і Бурбісам на кватэры Цёткі, здаецца на Хівінскай вуліцы, мы селі за стол пісаць адозву — кожны паасобку, каб потым узгодніць, ці выбраць лепшую. Найлепшая выйшла Цётчына, напісаная ў поэтыцкай форме, якую без зьмен і прынялі. Тутжа мы яе і адбівалі здаецца на цыклёстылі пры помачы малодшай сястры Цёткі — Карольці Пашкевічанкі.

У хаўтурнай працэсіі за трунамі забітых быў і наш сьцяг.

Сходы, даволі нават многалюдныя, адбываліся пераважна на кватэры Умястоўскіх на Новым Сьвеце пры Варшаўскім параулку. За агітацыю сярод салдатаў мелі судовую справу і сядзелі ў турме— бацька Умястоўскі разам з сынамі.

На агульных мітынгах выступалі — Цётка, Пранук Умястоўскі і Бурбіс.

Арганізацыя нашая ня мела яшчэ магчымасьці зладзіць сваю друкарню і пакуль што не можна было выкарыстаць маей кракаўскай навукі ў гэтай галіне. Толькі ў канцы кастрычніка ці пачатку лістапада мы ўвайшлі ў паразуменьне з пэпэесамі, прычым я ўвайшоў у іхнюю друкарню, якая толькі арганізавалася, дзе працаваў яшчэ адзін іхні чалавек. Тэхніка была добрая — новая машына-амэрыканка, на якой можна было адбіваць да трох тысячаў старонак у дзень.

Тут прыдалася мая практыка ў Кракаве, дзе мяне пазнаёмілі з амэрыканкай.

Друкарня займала кватэру пры вуліцы Бакшта на другім паверху з двух ці трох пакояў добра ўмэбляваных. Раніцай прыходзіла жанчына, якая прыбірала кватэру. Да гэтага часу ўсе друкарскія прылады хаваліся: машына ў вялікую шафу, а касы з шрыфтам у камоду. Каб заглушыць стук пры націсканьні ўніз ручкі машыны — пад машыну пасьцілаўся войлак.

Жыцьцё весьці, а асабліва першы час, мне прышлося адасобненае. Першых колькі дзён я зусім не выходзіў з дому, а пазьней рабіў кароткія спацэры. Нікога з таварышоў я не спатыкаў і наагул да нікога не хадзіў, пад канец толькі бываў часам у сваякоў, далёкіх ад усялякай палітыкі, адзін раз быў нават на мітынгу перад выбарамі ў Дзяржаўную Думу.

Час быў гарачы, работа вялася напружаная, часта прыходзілася працаваць і ў начы, прынамсі рабіць набор, а часам і адбіваць на машыне. Па статыстыцы, якую вёў мой сябра-пэпээсовец за два месяцы, што існавала друкарня, лістапад—сьнежань, мы адбілі да ста тысячаў друкаў, шмат з якіх адбівалі на два бакі. Між друкаў беларускіх адбілі рэволюцыйныя вершы Цёткі — «Хрэст на свабоду» і інш. Колькі дзён працаваў у нас і наборшчык гэбрэй, які набіраў пэпэсаўскія адозвы ў жаргоне. Між іншым нам цяжка было паразумевацца з гэтым наборшчыкам, бо ён гаварыў толькі на жаргоне.

Незадоўга перад ліквідацыяй друкарні здарылася, што набіраючы доўга ў начы я пайшоў спаць не схаваўшы касы із шрыфтам у камод, пакінуўшы яе на камодзе. Жанчына прыбіраўшы пакой так яе і застала. Спалі мы ў суседнім пакоі і ня бачылі, якое гэта зрабіла на яе ўражаньне, але спадзяваліся, што дзякуючы сваей неразьвітасьці можа яна не зьвярнула на гэта асаблівай увагі. Сябра мой выехаў на колькі дзён у Варшаву, але і посьле павароту яго друкарня існавала яшчэ пару тыдняў і была самахоць зьліквідавана. Ліквідаваць яе на гэтай кватэры трэба было яшчэ і таму, што кватэранты жыўшыя пад намі зьвярнулі ўжо ўвагу на стукі пры адбіваньні на амэрыканцы.

Усе рэчы былі забраны з кватэры пры помачы транспортнай канторы Ваявудзкага, які быў ува ўсё пасьвячоны.

З пачаткам 1906 году я застаўся без работы ў сваім друкарскім фаху.

Пачалі мы думаць аб сваей самастойнай друкарні ў Менску і патроху наладжваць тэхніку. Прылады да адбіваньня прыйшлося рабіць больш прымітыўныя — вал, які хадзіў па рэльсах. Памоцнымі ў гэтым нам былі гэбрэі.

У Менск я прыехаў першага траўня 1906 году, хутка пасьля замаху Пулікава на менскага губэрнатара Курлова. Меў я пры сабе вал і раму і нават сусед пасажыр, які хацеў пералажыць маю пасьцельную клумку на другое месца трохі зьдзівіўся яе цяжару. Гаварылі аб завостраным кантролю на вагзале, але я памысна дабраўся са сваім багажом на кватэру Ленкоўскага, здаецца пры Магарыновай вуліцы. Ленкоўскага, які карыстаўся мянюшкай Японьчыка, я спатыкаў здаецца яшчэ ў Пецярбурзе ў 1902 годзе.

Сябры, з якімі я пазнаёміўся на першым пачатку ў Менску і якія памагалі найбольш пры арганізаваньні друкарні, былі — Віктар Зе-

лясей і Браніслаў Семэнцкі, які пазьней стаўся адным з павадыроў ППС.

Кватэру з трох невялічкіх пакояў і такой-жа кухні я зьняў каля Нізкага Рынку пры Тарговай вуліцы, дом № 40. З сабой я не меў нічога компромітуючага і пераехаўшы з рэчамі на кватэру праз поўгадзіны я выйшаў у горад пакінуўшы незачыненым чэмадан і аддаўшы ключ ад кватэры гаспадаром, каб яны маглі ў маей адсутнасьці пераглядзець рэчы. Заявіўся я тэхнікам, маючы пры сабе пляны і крэсьлярскія прылады.

Праз колькі тыдняў дачка гаспадара прызналася мне, што з пачатку яны падумалі пра мяне, што я друкую паперкі.

**Аганёк.**

(Далей будзе).

---

ГАННА НОВІК

## ПЕСЬНЯРОМ.

Вы запелі нам пра долю,
долю батрака,
як шапоча з ветрам поле,
як шуміць рака.

Вашы песьні ноччу шэрай
рвуцца ўдаль, каб жыць.
Але як мне на паперы
сны мае зьмясьціць?

На загоне, што ару я, —
для сябе пішу;
тут чытаю, — голас чуе
толькі ветру шум.

На іржышчы серпам звоне
млявая рука,
разрывае у саломе
кросны павука.

І спадніца мне на гэта,
як ад камароў;
пранасіла блізка лета,
за што купіш зноў?

А яшчэ тут, як на тое,
хочацца пісаць
пра адно, ды пра другое...
Дзе-ж на ўсё узяць!?

Трэба боты, хлеб і латка,
Дзе-ж тут да папер!
Не ўцячэш і ад падаткаў
ведама цяпер.

Ну і як пакіравацца,
шмат хто ўдаль заве.
Пачынае дзед сьмяяцца:
— Дур у галаве!..

Што-ж казаць я маю дзеду,
ведама — стары,
ды яму пра сьвет, пра веду
лепш не гавары.

А пры гэтым не хапае
у мяне ўсяго,
ды ці прымуць думы-песьні
вырабу майго?..

І пісаць я ледзь умею,
бо ня з школ сваіх,
толькі сэрцам разумею
голас ніў вузкіх.

17.V.37



# Беларускія работнікі ў Варшаве.

*(Пісьмо другое).*

У папярэднім нумары „Беларускага Летапісу“ мы падалі свой голас, што мы жывём.

Цяпер хочам пазнаёміць беларускую вёску з сапраўдным жыцьцём вялікага гораду. Горад — гора, кажа прыказка; і ўзапраўды гэта так. Але паміма гэтага наша вёска імкнецца ў горад, як мухі да мёду. Адны, змушаныя цяжкім жыцьцём, шукаюць хлеба — (такіх найболей), другія — сьвету і ўражаньняў.

Здабываць хлеб у горадзе цяпер вельмі цяжка. Новапрыбыўшыя толькі павялічваюць лік безработных, бо працы няма. Ня прыходзіцца асабліва завідаваць і тым, што працуюць: за пільную і цяжкую працу дастаюць грашы. Праўда вялікія фабрыкі растуць, як грыбы посьле дажджу, здаецца і крызысу няма. Газэты падалі радасны воклік надвыжкі ў буджэце і шмат іншых фактаў, каторыя нібы маюць сьведчыць аб паправе быту. Аднак мы работнікі папраўы яшчэ ня бачым. Безрабоцьце ня зьменшылася, а той хто працуе зарабіць больш, як у часы найгоршага крызысу, ня можа. „Радыёфонізаваць край“, набываючы апарат, пайсьці ў тэатры ці кіно,нават газэту купіць не хапае грошаў. Такія культурныя разрыўкі ня кожнаму з нас даступныя. Толькі гарадзкія паркі, гоман вуліцы і прыгарадныя лугі, дзе можна бязплатна пасядзець на траве, дуступныя для ўсіх.

Аднак трэба прызнаць, што культура і асьвета тут прыходзяць да нас хутчэйшым крокам, як на вёсцы. Але сьледам за імі таксама цягнецца і распуста, каторая часта бярэ верх над сьведамасьцяй. Маладыя хлапцы шукаючы нечага цікавага, вельмі часта пападаюць у мяцеліцу ночнай Варшавы, дзе як заўсёды ў такіх выпадках, алькаголь мае першы голас. А гэта ўжо да дабра не вядзе.

Таксама і дзяўчаты ня-знай ня-ведай каму часта павераюць сваё сэрца і цяжка запрацаваны грош, каторы найчасьцей бывае змарнаваны, так як і іх жыцьцё.

У наступных нумарох пажаданага „Беларускага Летапісу“ пададуць голас і іншыя работнікі - беларусы, каторых адведаю на сваім ровары.

**Фабіян Вайцілёнак**

---

# Наша хроніка.

*** **Выйшаў з друку „Журавінавы цьвет“** — другі томік паэзіі Максіма Танка (першы „На этапах“ канфіскаваны). Польская крытыка залічае Танка да эўрапейскіх паэтаў першае клясы. Гэтым апошнім выданьнем такія прыхільныя одзывы поўнасьцю пацьвярджаюцца. З нашага беларускага пункту гледжаньня ад Танка пачынаецца новая эпоха ў беларускай літэратуры. Пераходны пэрыяд, адраджэнскі скончыўся. Пачынаецца буйны рост, выхад на агульна - эўрапейскія пазыцыі. Сьвежымі хвалямі ўліваюцца ў нашу поэзію новыя тэмы, новыя абразы, новыя звароты і словы. Усё гэта прасякнута здаровым жыцьц-

5000

цём, глыбокім оптымізмам, магутнай сілай. Такім зьместам насычаны гэты зборнік.

Сама тэхніка выданьня адзначаецца нязвычайнай акуратнасьцю; эстэтычны вонкавы выгляд дае мастацкая трохкаляровая вокладка, добрая папера, чысты друк. На пачатку кніжкі партрэт і факсіміле аўтара. Кніжка мае 80 стар. друку. Цана 1 зл. 50 грошаў без перасылкі. Перасылка 25 грошаў. Чытачы „Беларускага Летапісу", якія заплацілі складку, за перасылку не плацяць. Для тых, хто адразу выпіша ня менш 20 экзэмпляраў даецца вялікая скідка: цана кніжкі будзе каштаваць толькі *адзін злоты* з перасылкаю. Заказы адрасаваць на „Беларускі Летапіс".

Поўны крытычны агляд гэтага новага зборніка і наагул паэтыцкай творчасьці Танка дамо ў наступных нумарох нашага журнала.

⁂ **Выпісвайце і чытайце** зборнік Міхася Васілька **„З сялянскіх ніў"**. Кніжка мае 32 старонкі друку, прыгожую вокладку і партрэт аўтара. Выданьне, таксама як і зборнік М. Танка, зроблена вельмі акуратна і эстэтычна. Цана асобнай кніжкі 50 грошаў, з перасылкаю 65. Нашы чытачы, якія заплацілі складку, за перасылку не плацяць. Зборнік Васілька, так-жа як і зборнік Танка павінен быць у кожнай беларускай хаце. Асабліва аб гэтым трэба памятаваць нашай моладзі, якая на гэтых творах навучыцца *любіць свой народ, свой край, сваю прыгожую, беларускую мову.*

⁂ Выйшлі з друку: **Нарач**— паэма М. Танка. Выданьне „Калосься". Стар. 100. Фарм. 8°. Цана 1 злоты. (Гл. „Б. Л." № 2-3). **„Калосьсе"** — літаратурна-навуковы часапіс (квартальнік), кніжка 3. Стар. 64. Цана 50 гр. **„Шлях моладзі"** — месячнік № 7.

⁂ Беларускі журнал для дзяцей **„Снапок"** выдаецца з першага траўня Праваслаўнай Мітраполіяй у Варшаве па наступнай праграме: царкоўны аддзел, літаратурны (апавяданьні, вершы, народныя казкі і пад.), з прыроды, па роднаму краю, з сусьвету, тэхніка, культура, гігіена, усячына, газэта малых чытачоў.

Рэдагуе С. Паўловіч, Вільня, Папоўская вул. д. 9, кв. 4. Усе карэспандэнцыі для журнала прысылаць на гэты адрас. У жніўні выходзіць чацьверты нумар „Снапка".

## А МНЕ ТРУДНЕНЬКА.

*(Народная з в. Новыя - Зімодры, Куранецкай вол. Вялейскага пав.).*

Гарм. К. ГАЛКОЎСКАГА

Moderato

1. А мне труд-нень-ка, а мне нуд—нень-ка па ся—
4. Скольні жыць бу-ду і ту---жыць бу--ду, бу--ду

1 Мне труд- - - - - - - - - - -нень - - - - -ка,
4 Жыць бу- - - - - - - - - -ду, ту- - -




нуд - - - - - - - - нень - - - - - - -
- - - - - - - - - жыць бу - - - - - - - -




ка ка - - - - то - - ры 2. Ой сха -
ду рэч - - - ку 5. Каб ты,




дзі - - - це вы,
рэ - - чань - ка,






саў - - - шы - ся це - раз рэ - - - чань - ку і - шоў.
быст - - - ра - я, май - го мі - - - ла - - га ўня - сла!

Tutti.

3. Ён у - мыў - шы - ся, пры - ча - - саў - шы - ся це - раз
6. Каб ты, дзе - ві - ца, каб ты, крас - на - я, ско - ра

3. Ён у - мыў - - - - - - - - - - - - шы - - - - - - ся
6. Каб ты за - - - - - - - - - - - муж не

рэ - чань - - - ку і - шоў, гэй! Па - мась - цінач - ка па - гіб -
за - муж не пайшла, гэй! як ты, дзе - ві - ца, як ты,

і - шоў. мі - - - - - - - -
пай - шла, як

ну - - ла - ся, і мой мі - - - лы у - та - - - нуў.
крас - на - я, май - го мі - - - ла - - - га зьвя - ла!

лы, і мой мі - лы у - - - та - - - - нуў.
ты май - го мі - ла - га зьвя - - - - - ла!

